На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою...
Якуб Колас

№ 229 (351)

Аўторак, 23 снежня 1997 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Выдавец — ТАА "Народная воля"

Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



**Сонца**

| | Усход | Захад |
|---|---|---|
| Віцебск | 8.24 | 15.33 |
| Магілёў | 8.15 | 15.40 |
| Гомель | 8.05 | 15.45 |
| Мінск | 8.27 | 15.51 |
| Гродна | 8.40 | 16.07 |
| Брэст | 8.32 | 16.16 |

*Маладзік 29 снежня.*



Там, дзе ступала нага прэзідэнта

## Вось і вер пасля гэтага Беларускаму тэлебачанню

Не ведаю, як вас, паважаныя чытачы, а мяне моцна ўразіў рэпартаж Беларускага тэлебачання аб тым, як прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка наведваў мінскія магазіны. На экране паказваліся прылаўкі, напоўненыя смачнымі і не вельмі дарагімі прадуктамі. Мне, вядома, захацелася купіць іх да Новага года. Прычым не мноства розных там далікатэсаў. Яны мне не патрэбны. Захацелася набыць хоць кавалачак свініны. Каб не тлусты надта і не дарагі. Ну такі, як паказвалі па тэлебачанні.

У мінулую пятніцу зранку я выехаў за пакупкамі. Вырашыў наведаць магазін №52 у мікрараёне Шабаны, у якім і пабываў наш прэзідэнт. Падумалася: туды з цэнтра горада наўрад ці хто паедзе, так што змагу спакойна, без чаргі купіць кавалачак мяса.

Да аўтазавода дабраўся без праблем. А вось аўтобус №21, які ходзіць адсюль у Шабаны, прыйшлося браць штурмам. У яго паўнютка набілася пенсіянераў і міліцыянераў. І амаль усе з авоськамі. "Выходзіць, не адзін я бачыў той рэпартаж па тэлевізару", — міжволі падумалася мне. Але многія мае спадарожнікі пачалі вывальвацца з аўтобуса за прыпынак да Шабаноў. "Тут даюць цукар па 19 тысяч за кіло, — адказалі яны на мае пытанне і патлумачылі: — Але не ўсім. Толькі пенсіянерам Заводскага раёна".

А вось і мікрараён. Шыбую ў прадуктовы магазін №52. Ён невялікі, даволі ўтульны. Каля мяснога аддзела — невялікая чарга, чалавек пяць. "Ой, як пашанцавала", — думаю я. Але каля прылаўка мой настрой адразу сапсаваўся. З танных прадуктаў ляжалі толькі рэбры па 49 тысяч рублей за кіло, ды набор для супа, я ўзяў яго на вобмацак. Адны косці. І чорныя нейкія. Была тут і свініна па 71.900 рублей за кіло. Але кавалачкі з немалой косткай і надта тлустыя. З яго наўрад ці атрымаецца тры-чатыры адбіўныя. Словам, зусім не такія, як паказвалі па тэлевізару.

— Такія ж прадукты прадаваліся і калі тут прэзідэнт быў? — пацікавіўся ў прадаўшчыцы.

— Не ведаю. Тады працавала іншая змена, — дыпламатычна адказала яна і ўсміхнулася.

Адазваўся адзін пажылы пакупнік:

— Шкада, што не спаткаўся я з прэзідэнтам. Я б у яго спытаў найперш пра цэны. Абяцаў некалі, што яны не будуць "кусацца", а цяпер са сваёй пенсіяй баюся заходзіць у гастраном, — даводзіў ён.

І зразумець гэтага чалавека не цяжка. Прапаноўваюцца пакупнікам крыветкі па 256 тысяч рублёў за кілаграм, грудзінка па 188 тысяч, рулет па 145 тысяч... Дарагавата, што і казаць.

У мікрараёне аўтазавода я наведаў яшчэ адзін магазін. Той самы малюнак. Па кішэні простых людзей, мабыць, толькі вараныя каўбасы па 70—80 тысяч за кіло. Але ж ад іх і каты нос адварочваюць.

Бяру курс на універсам "Рыга", які таксама паказвалі па Беларускаму тэлебачанні. Гаваркія дыктарка і журналістка пераконвалі, што тут багаты выбар прадуктаў. Падыходжу да мяснога прылаўка. Свініны наогул няма. Ляжыць толькі ялавічына з вялізнымі косткамі. Наведвальнікі купляюць печань па 53 тысячы за кілаграм. Чарга за ёю немалая. Ды і мой страўнік не надта яе любіць. Прадаюць тут і той жа набор з касцей для супа.

Наведваюся ў гастраном "Сталічны", што каля ЦУМа. Свініны таксама няма. Прадаюць толькі ялавічыну па 62 тысячы за кілаграм ды каўбасы па 234 тысячы, па 248 тысяч, па 184 тысячы рублёў за кілаграм.

Ва ўсіх магазінах былі куры далёка не першай свежасці па 68 тысяч рублёў за кілаграм ды вараныя каўбасы. Нідзе не было малака, таго, якое п'юць дэпутаты Нацыянальнага сходу, тлустасцю 3,5 працэнта. Было гэтае, сіняе, у пакетах, якое часта называюць "народным пойлам".

Так што купіць кавалачак ладнай свініны мне так і не ўдалося. Вось і вер пасля гэтага Беларускаму тэлебачанню.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

Там, дзе не ступала нага прэзідэнта

## "Мы вось ад мышэй не можам адбіцца..."

Вёка Тарасава — побач з Мінскам. Тут, як і ў сталіцы, жывуць малыя і старыя, працаздольныя і непрацаздольныя. Навошта ехаць у горад за батонам, калі, здавалася б,хлебабулачныя вырабы два разы ў тыдзень завозяць у мясцовую краму. Праўда, за апошні месяц ніхто тут і ў вочы не бачыў батонаў. Ні дарагіх, ні танных.

— Заказваем, але не дастаўляюць, — сцвярджае маладая гандлярка.

— А свежамарожаная рыба ў вас ёсць?

— Няма.

— А падарачныя наборы цукерак?

— Вы маеце на ўвазе ў каробках? — перапытваецца прадавец.

— Так, так.

— Што вы, адкуль яны могуць быць у вясковым магазіне, — чуецца адказ.

— А калі папрасіць бутэлечку шампанскага?

Дзяўчаты-гандляркі ледзь не пакаціліся ад смеху.

— Другі месяц працуем, але ні адной бутэлькі не было.

— А што у вас з мясных, рыбных кансерваў?

— Мясных таксама няма, а з рыбных...

Дыялог можна працягваць, але шкада газетнай плошчы. Калі ў горадзе прэзідэнт здзіўляўся шырокаму асартыменту прадуктаў у гастраномах, то тут, у вёсцы, побач са сталіцай, амаль пустыя паліцы. Нават гарэлка і тая не мінскага завода, а з нейкага перыферыйнага. Ёсць "чарніла" аднаго гатунку, а вось сухога віна не бачна. Як, дарэчы, і піва.

Што і казаць, бедны асартымент. А таму і гандаль не ідзе.

— Выручым за дзень два мільёны рублёў — вось і ўся наша работа, — заўважаюць прадаўцы. І дадаюць: — Ды і ці ж у такіх умовах працаваць? Мы вось ад мышэй не можам адбіцца...

Крама ў Тарасава прыткнулася ў старэнькай абшарпанай пабудове. Адчуваецца, што рамонтам тут даўным-даўно ніхто не займаўся. Які кантраст: у Мінску сапраўды ёсць што паказаць, нават прэзідэнту, а побач, у вёсцы, дзе яго нага не ступала ды можа і не ступіць, мясцовая крама хутчэй напамінае нейкі хляўчук чым гандлёвую кропку.

Але ж і ў Мінску, і ў Тарасаве жывуць людзі. Толькі апошнім за батонам альбо нармальнай кансервай трэба ехаць у сталіцу. Справядліва? Вядома ж, не.

**Антон КРАЎЧУК.**

## Беларускія ўлады далі згоду на адкрыццё ў Мінску прадстаўніцтва АБСЕ

Беларускія ўлады далі згоду на адкрыццё ў Мінску місіі АБСЕ. Такую заяву зрабіў учора міністр замежных спраў Даніі Рудольф Торнінг-Петэрсен на пасяджэнні Савета міністраў замежных спраў Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе, што праходзіць у Капенгагене, удзел у якім бярэ і беларускі міністр замежных спраў Іван Антановіч.

Па заяве Петэрсена, узначаліць місію прадстаўнік Германіі Ханс-Георг Вік. Петэрсен, тым не менш, не паведаміў, як удалося дабіцца на гэта згоды ад афіцыйнага Мінска; ён указаў толькі, што "пераважыў цвярозы сэнс". Перад пачаткам пасяджэння Савета прадстаўнікі ЗША і Еўрапейскага Саюза паведамілі аб намеры выступіць з рэзкай заявай, у якой асуджаюцца ўлады Беларусі за працяглую зацяжку з вырашэннем пытання аб адкрыцці місіі АБСЕ. Асноўная задача місіі, якая будзе размяшчацца ў Мінску, — садзейнічанне развіццю дэмакратычных інстытутаў у Беларусі і кантроль за выкананнем правоў чалавека.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ.**

## Шэрагу кіраўнікоў Гомельскай вобласці аб'яўлены вымовы за непрыняцце захадаў на пагашэнне запазычанасці за электраэнергію

Доўг суб'ектаў гаспадарання Гомельскай вобласці за выкарыстаны ў 1996—1997 гадах прыродны газ і электраэнергію складае адпаведна 570,5 і 1284,2 мільярда рублёў.

Некалькі скараціць запазычанасць дапамог графік яе пагашэння, складзены Гомельскім аблвыканкамам у жніўні гэтага года. Дзякуючы графіку аб'ём запазычанасці па газу ўдалося скараціць на 45 працэнтаў; што да электраэнергіі, то доўг зменшыўся толькі на 9 працэнтаў. Гэтая акалічнасць змусіла аблвыканкам звярнуцца да непапулярных захадаў — рэзка абмежаваць спажыванне электраэнергіі даўжнікам. Да апошніх, у прыватнасці, адносяцца такія буйныя прадпрыемствы, як ВА "Гомсельмаш" і "Крышталь", Гомельскі радыёзавод, Рэчыцкі гідролізны завод і шэраг іншых, у тым ліку сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. За непрыняцце эфектыўных мер па ліквідацыі запазычанасці за энергарэсурсы аблвыканкам аб'явіў вымовы старшыням Гомельскага і Рэчыцкага гарвыканкамаў, Гомельскага і Добрушскага райвыканкамаў, а таксама старшыні абласнога камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванні.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

Эканамічны агляд

*Уладзімір КУЛАЖАНКА,*
*доктар эканамічных навук, прафесар*

## Адміністрацыйныя меры не могуць забяспечыць адміністрацыйны рост



У афіцыйным друку 18 снежня з'явіліся сціплыя паведамленні аб тым, што на фоне агульнага ўздыму назіраецца зніжэнне у канцы года. Заўважце — *зніжэнне,* хоць на самой справе ў лістападзе адбыўся небывалы спад вытворчасці. Толькі газета "Беларускі рынак", рэальна ацаніўшы сітуацыю, назвала правал у вытворчасці "прыступам арытміі". Што ж адбылося на самой справе?

Адбылося тое, чаго трэба было чакаць. Пацвердзілася тэза, што ніякія адміністрацыйныя меры не могуць забяспечыць выйсце з крызісу, тым болей стабільны рост. Толькі што адбылася магілёўская прамысловая нарада як атрыбут адміністрацыйнага кіравання. 1200 чалавек ставілі і абмяркоўвалі праблемы. Дамовіліся змяніць сітуацыю. А атрымалася, што сітуацыя змянілася сама па сабе і ў адваротным кірунку. Паводле даных статыстыкі, у лістападзе аб'ём валавага ўнутранага прадукта скараціўся ў параўнанні з кастрычнікам аж на 16 працэнтаў. Такога падзення ні летась, ні сёлета яшчэ не было.

Прычым спады і правалы дапушчаны ва ўсіх сферах і галінах народнай гаспадаркі, што задужа небяспечна. Так, аб'ём вытворчасці прамысловай прадукцыі ў краіне скараціўся на 7,5 працэнта, а ў Мінскай і Гомельскай абласцях — больш чым на 10 працэнтаў. Можна колькі заўгодна гаварыць, што калядны і навагодні стол у грамадзян рэспублікі будзе багаты, але факт застаецца фактам — вытворчасць харчовых тавараў у лістападзе скарацілася болей як на 10 працэнтаў. Сярэдні надой малака зляцеў на 20 працэнтаў. Болей як на 20 працэнтаў скарацілася рэалізацыя калгасна-саўгаснай сістэмай малака і мяса. І наогул, вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі ў лістападзе склала толькі 40 працэнтаў да ўзроўню кастрычніка. Можна запярэчыць, што лістапад — глыбокая восень і спад вытворчасці заканамерны. Гэта, безумоўна, так. Але ж не ў 2,5 разы. У тым жа афіцыйным статыстычным зборніку за студзень — лістапад паказана, што летась аб'ем вытворчасці ў лістападзе склаў 107,6 працэнта ў параўнанні з кастрычнікам. Такія ж параўнанні па рэалізацыі малака і мяса. Значыць, прычына ў іншым. Кіраўнікі гаспадарак, відаць, пачалі адкручваць зробленыя раней прыпіскі назад. А тым часам узніклі чэргі за малаком. Не хапае птушынага мяса, яек і свініны. Нават выраб гарэлачных напоеў скараціўся на 6 працэнтаў.

Спад вытворчасці ў лістападзе сімвалізуе крызісны стан эканомікі. І гэта не выпадкова, бо інвестыцыі, якія і без гэтага з'яўляюцца крытычна недастатковымі, у лістападзе скараціліся на 5 працэнтаў. Нават галіны, якія афіцыйна абвешчаны прыярытэтнымі ў лістападзе, дапусцілі спад. Найперш маецца на ўвазе будаўніцтва. Вытворчасць будаўнічых матэрыялаў у цэлым у лістападзе скарацілася на 8,5 працэнтаў, а шыферу — на 36,5, цэглы — на 22, вапны — на 14 працэнтаў. Прыведзеныя лічбы сведчаць, што перспектывы развіцця будаўнічай галіны не такія ўжо ружовыя, як іх часам прадстаўляюць.

Дапушчаны спад вытворчасці ў лістападзе небяспечны тым, што пагоршыўся фінансавы стан суб'ектаў гаспадарання. Каля 14 працэнтаў прадпрыемстваў глыбока стратныя. А ў некаторых галінах гаспадаркі колькасць стратных прадпрыемстваў проста непамерная. Так, у паліўнай прамысловасці кожнае чацвёртае прадпрыемства стратнае. Амаль кожнае трэцяе — у прамысловасці будаўнічых матэрыялаў і лясной і цэлюлознай прамысловасці.

Здавалася б, спад вытворчасці павінен быў прывесці да скарачэння нерэалізаваных тавараў. Але і гэтага не назіралася. Запасы выраблена, але нерэалізаванай прадукцыі на пачатак снежня дасягнулі 17,1 трыльёна рублёў. Леташні ўзровень пераўзыдзены на 7 трыльёнаў рублёў. Толькі адна гэтая лічба характэрызуе гаспадарку краіны як глыбока крызісную.

Пагоршылася і знешнеэканамічная дзейнасць. У жніўні — верасні эканамічным ведамствам краіны ўдалося некалькі палепшыць сальда знешнегандлёвага балансу. І вось раптам па даных за 10 месяцаў і кастрычнік сітуацыя рэзка пагоршылася. Імкліва ўзляцеў у гару імпарт. Калі ў верасні ён складаў 703 мільёны долараў, то ўжо ў кастрычніку — 811. У той жа час абяцаны рост экспарту застаўся на ўзроўні пажадання. Нават у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ён скараціўся на 7,3 працэнта, у той час як імпарт падрос за адпаведны перыяд на 15,3 працэнта. Як вынік — адмоўнае знешнегандлёвае сальда зноў пайшло ў рост і дасягнула 1 мільярда 378 мільёнаў долараў.

Словам, за які паказчык ні вазьміся — нішто не надае аптымізму. Ёсць небяспека, што тэндэнцыя спаду захаваецца і ў снежні. Праўда, яе можна будзе спісаць на маразы.

## Пастырскае пасланне на Божае Нараджэнне года Панскага 1997

*Езус Хрыстус, адзіны Збавіцель Свету, — учора, сёння і навекі*
*(ТМА н.40)*

Ужо толькі тры гады аддзяляюць нас ад Вялікага Юбілею 2000 года, калі ў двухтысячную гадавіну Божага Нараджэння асаблівым чынам мы будзем перажываць таямніцу Уцелаўлення Слова Божага.

У гэтыя гады падрыхтоўкі да Юбілею думка наша павінна весці нас да Бетлеемскага гроту, у якім "Слова сталася Целам", і адначасова няхай паўстае перад нашымі вачыма постаць Езуса Хрыста, Сына Божага Уцелаўлёнага.

"Сапраўды, годна гэта і справядліва, слушна і збавенна", каб мы сёння, ва ўрачыстасць Божага Нараджэння засярodзілі нашу ўвагу менавіта на асобе Езуса Хрыста, на Добрай Навіне, якой Ён даў пачатак 2000 гадоў назад і якая ўвасоблена ў Евангеллі. Гэтая Добрая Навіна Езуса Хрыста стала Божым умяшальніцтвам, якое перадусім вярнула чалавеку прывілею атрымання сыноўства Божага праз увядзенне ў жыццё любові Бога, заклікаючы да навяртання, да адмаўлення ад граху, да пакаяння і паяднання з Богам. Вучэнне ж, якое абвяшчаў Пан Езус, і дзейнасць, якую Ён праводзіў, унеслі істотныя змены ў адносіны людзей адно да аднаго ў імя любові да бліжняга.

Менавіта гэтыя прынцыпы, відавочныя доказы якіх мы маем на старонках Евангелля, пастараймася сёння больш падрабязна разважыць і зрабіць з іх практычныя вывады.

### Езус прабачае і навяртае грэшнікаў

Зычлівыя адносіны Езуса да грэшнікаў натыкаліся на абвінавачванні з боку фарысеяў у тым, што Ён — "прыяцель мытнікаў і грэшнікаў". Калі Езус сядзеў у доме за сталом, прыйшло многа мытнікаў і грэшнікаў і сядзелі разам з Езусам і Яго вучнямі. Бачачы гэта, фарысеі гаварылі вучням Яго: "Чаму Настаўнік ваш есць і п'е разам з мытнікамі і грэшнікамі?" (Мц 9, 11). Адказ Езуса дакладна і ясна вызначыў Яго адносіны да грэшнікаў: "Не здаровым патрэбен лекар, а хворым... Бо Я прыйшоў не справядлівых, але грэшнікаў клікаць да пакаяння" (Мц 9, 12—13).

### Езус вучыць прабачаць і любіць непрыяцеляў

Езус Хрыстус не толькі сам літасцівы да грэшнікаў, але раіць гэта рабіць сваім вызнаўцам. У сваёй малітве "Ойча наш" Ён вучыць нас маліцца наступным чынам: "І прабач нам грахі нашыя, як і мы прабачаем вінаватым нашым" (пар. Лк 11, 4). На пытанне Пятра "Пане, колькі разоў дароўваць брату майму, калі ён саграшыць супраць мяне? Ці ажно сем разоў?" Езус адказаў яму: "Не кажу табе, да сямі разоў, але семдзесят сем разоў" (пар. Мц 18, 21—22). Поўнаю супрацьлегласцю Старому Запавету "ненавідзь ворага свайго" (Мц 5, 43) з'яўляецца запавет пана Езуса "А Я кажу вам: любіце ворагаў вашых" (Мц 5, 44). Укрыжаваны Езус на Галгофе маліўся да Свайго Айца: "Ойча, даруй ім, бо не ведаюць, што робяць" (Лк 23, 34).

### Езус аздараўляе хворых і апантаных

На старонках Евангелля запісана вялікая колькасць розных аздараўленняў, якія ўчыніў Езус. "І хадзіў Езус па ўсёй Галілеі... лечачы ўсялякую хворасць і ўсялякую немач у людзей... Прыводзілі да Яго ўсіх слабых, з рознымі хворасцямі і прыпадкамі, і апанаваных нячыстым, эпілептыкаў і спаралізаваных, і Ён іх аздараўляў" (пар. Мц 4, 23—24). "Калі ж надышоў вечар, да Яго прывялі шмат людзей, апанаваных злым духам, і Ён выгнаў духаў словам і вярнуў усім хворым здароўе, каб збылося сказанае праз прарока Ісаю, які кажа: Ён узяў на сябе нашыя немачы і вылечыў хваробы нашыя" (пар. Мц 8, 16—17). А значыць, Пан Езус аказаўся лекарам не толькі душы, але і цела чалавечага.

### Езус прымае знямоглых і абцяжараных

Спачуванне і літасць вызначалі Езуса ў адносінах да знямоглых і абцяжараных, што кожны дзень збіраліся вакол Яго. "Гледзячы на грамады народу, Ён пашкадаваў іх, што былі знямоглыя і раскіданыя, быццам авечкі без пастуха" (Мц 9, 36). Словы, з якімі звяртаецца Пан Езус да знямоглых, напоўнены любоўю і міласэрнасцю: "Прыйдзіце да Мяне ўсе знямоглыя і абцяжараныя, і Я супакою вас" (Мц 11, 28). Жывым бальзамам для ўсіх абцяжараных сталі восем цудоўных Езусавых благаславенняў у Нагорнай пропаведзі: "Шчаслівыя ўбогія духам... шчаслівыя плачучыя... ціхія... галодныя і прагнучыя праўды... міласцівыя... чыстым сэрцам... міратворцы... шчаслівыя, каго гоняць за справядлівасць... Радуйцеся і цешцеся, бо вялікая вашая ўзнагарода ў небе" (пар. Мц 5, 3—12).

### Езус паважае і цэніць жанчын

Евангелле сведчыць, што Пан Езус сустракаўся з жанчынамі, цаніў іх веру і вернасць, прыводзіў іх у прыклад, аздараўляў, быў міласэрны адносна нават яўных грэшніц. Жанчыны спадарожнічалі Яму аж на Галгофу і ніколі не здрадзілі. За гэтую вернасць яны атрымалі ад Езуса прывілею першымі ўбачыць Уваскрослага Езуса.

### Езус любіць дзяцей

"Дазвольце дзецям ісці да Мяне, і не забараняйце ім, бо гэткіх ёсць Валадарства Божае... І, абняўшы іх, усклаў на іх рукі і багаславіў іх" (Мк 10, 14, 16). Адначасова, бачачы перад сабой дзяцей, Ён заклікае дарослых да навяртання: "Сапраўды кажу вам: калі не навернецеся і не будзеце, як дзеці, не ўвойдзеце ў Валадарства Нябеснае. Дык вось хто ўмаліцца, як гэтае дзіця, той і большы ў Валадарстве Нябесным. І хто прыме адно гэткае дзіцятка ў імя Маё, той Мяне прымае" (Мц 18, 3—5). Таму можна сказаць, што гэта не дзеці павінны стаць дарослымі, але дарослыя павінны стаць дзецьмі.

Праслаўляючы Дзіця Божае, пакладзенае ў ясельках, дзякуем Яму за Яго Уцелаўленне, за прынесеную на зямлю любоў Бога і бліжняга і абяцаем Яму ўвасабляць яе ў сваім жыцці, дзеля Яго хвалы і збаўлення душ нашых.

Далучаю найлепшыя святочныя пажаданні з пастырскім благаславеннем.

**Кардынал Казімір СВЁНТЭК,**
**Арцыбіскуп, Мітрапаліт**
**Мінска-Магілёўскі Апостальскі,**
**адміністратар Пінскай дыяцэзіі.**

## Да смяротнай кары асуджаны 42-гадовы забойца са Шклова

Вышэйшую меру пакарання — смяротную кару праз расстрэл — прысудзіў 18 снежня Шклоўскі раённы суд забойцу і гвалтаўніку Мікалаю Багданаву.

Злачынцу 42 гады, раней ён быў двойчы асуджаны. У чэрвені гэтага года, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, М.Багданаў згвалтаваў і забіў шасцігадовую дзяўчынку. Апазналі яго суседзі забітай. Апрача прыкметнага страху за сваё жыццё, ніякіх бачных эмоцый, у тым ліку і пачуцця раскаяння, на судзе забойца не праявіў. Таму, відаць, у зале суда не знайшлося ніводнага чалавека, які б жадаў паблажкі М.Багданаву.

**Аляксандр АЛЕКСАНДРОВІЧ,**
**БелаПАН.**

Рождественская сказка

## Немецкий дом семьи фон Люкен для философов, детей и зверей

**Людмила МАСЛЮКОВА,**
**политический обозреватель**
**"Народной воли"**

На Рождество следует рассказывать сказки. Желательно с чудесами. Обязательно со счастливым концом. Трогательные до слез. Поучающие добру.

Так на самом деле все и было, точно по законам жанра святочного повествования.

Однажды, в разгар августа, волею судьбы мы очутились в заповедном месте. Нас было трое: Катя Матвеенко из деревни Новый Быхов с Гомельщины десяти годков от роду, Ира Шакурова из-под Минска на годик старше подружки и далеко не молодой журналист из столицы Беларуси. Редкостное состояние, близкое к блаженству, для взрослого длилось три дня и три ночи, для детей — тридцать дней и тридцать ночей. Каждому радости досталось по справедливости: старшему — самая малость, малым — по самую макушку.

Дело было в Германии, на западе страны, в земле Ольденбургской. Примерно на равном расстоянии от Ольденбурга и от прославившегося на весь мир сказочными музыкантами града Бремена расположено заповедное местечко. По тамошним обыденным понятиям, это деревенька примерно на шесть тысяч жителей. Впрочем, для нас обитель не была "расположена", не была поселком, а вообще существовала в неком ином измерении — подобно острову, на котором произрастал аленький цветочек. Мы очутились среди парка, сада, цветника — с чистенькими брусчатыми тротуарами-дорогами, между зеленью и нарядными особняками.

В один из счастливых дней мы втроем сели на велосипеды и кружили по брусчатым улицам, дивясь чудесам. Остановились у дворика с бассейном: на бережке — гномики, а скульптурный мальчонка традиционным способом пускает струйку воды в резервуар. Поглазели на скворечник, громоздившийся на низком столбе в виде игрушечного домика с верандой, по которой с хозяйским видом разгуливал воробей. Обозрели тележное колесо, прикрепленное к глухой стене строения: обод, спицы и втулка своей неподвижностью как бы символизировали — здесь дорога кончается, здесь надежное пристанище. За околицей пообщались с ласковым ручным пони, который пасся на густой и сочной травушке-муравушке.



Пастораль, идиллия, да и только.

Видимо, от переизбытка ярких впечатлений за ночь в одной из спален дома по Лессингштрассе родилось стихотворение, наивное, конечно, и не очень складное. Вот четыре строчки из него: "Кустики, заборчики, красные кирпичики, Дерева столетние и фонтанов хор. Россыпи цветастые, крыши черепичные... Городок сей в табакерке называется Альхорн."

Сказку "Городок в табакерке" наверняка знают многие. В отличие от ее маленького героя, мы не во сне, а наяву наслаждались зрелищем красоты и гармонии. И только удивительно нереально среди немецкого благолепия и тишины звучал белорусский говорок Катерины. И по-нашенски безудержно смеялась Ирина. И редкие прохожие, завидя нашу разудалую кампанию, улыбались и говорили: "Чернобыл киндер!" То есть они имели в виду, что вот опять в Альхорн приехали чернобыльские дети из страны, которую они на своем языке называют "Беларусланд".



Роль судьбы, по воле которой мы были заброшены из суровой реальности в волшебную, исполнила чернобыльская инициатива городка Гроссенкнетен, который от Альхорна в десяти минутах езды на автомобиле. Инициатива существует с 1990 года при евангелически-лютеранской церковной общине. Когда, к примеру, в церкви венчалась молодая пара, то полученные в подарок две с половиной тысячи марок новобрачные пожертвовали нам. За счет такого рода пожертвований и жили в девятнадцати семьях членов местной общины целый месяц тридцать ребятишек из зоны радиационного загрязнения, пострадавших от ядерной катастрофы.

Ире, Кате и мне вместе с ними повезло особенно, потому что нас распределили к фрау Маргит фон Люкен — руководителю гроссенкнетенской чернобыльской инициативы. Она третий по счету лидер со времени возникновения организации. История же становления благотворительного движения в западногерманской глубинке восходит к первым визитам туда Ирины Грушевой, лидера белорусского фонда "Детям Чернобыля".

О нашем доме Ира Шакурова говорила: "Я его узнаю по зарослям!"

Сейчас усадьба, наверное, разубрана кружевами серебристой изморози. Там воцарилась зимняя сказка. Мы гостили в сказке летней, где пышно зеленели кусты и деревья и благоухали перед фасадом душистые петуньи. Маргит любит цветы, и для нее их выращивает муж Элард, что вполне характеризует отношения супругов. О таких парах сказители и сочинили финал: "Они жили долго и счастливо". А вот зачин "Жили-были старик со старухой..." супругам фон Люкен не подходит. Хоть им на двоих примерно сто двадцать, повадки у обоих молодецкие.

Возле гаража Элард посадил вывезенный из Японии бамбук, и с годами экзотический пришелец образовал отдельную маленькую заросль членистых стволиков. В дебрях за домом не иначе как чудом разместилась полянка. Забор, окружающий земельное владение семьи фон Люкен, теряется в ветвях и побегах. С непривычки теряешься среди буйной девственной растительности и сама, ощущая себя примерно как девочка из сказки "Маша и медведь": как будто пробиралась сквозь бор, плутала по березнякам и нечаянно наткнулась на избушку.

Дом приземистый. По заказу его проектировал ольденбургский архитектор. Давно это было, и со временем замысел художника обрел законченность. Строение как бы выросло из земли или, если угодно, вросло в нее: нижний сугубо хозяйственный этаж — подвальный, жилой — первый и единственный. По внешнему периметру стены подпирает как бы завалинка из массивных древесных брусьев в несколько рядов. По ней супруги свободно гуляют вдвоем под руку. Со стороны внутреннего дворика завалинка расширяется до размеров просторной открытой веранды. На веранде круглый обеденный стол.

**(Окончание на 2-й стр.)**

**На снимках:**
*Счастливое пробуждение в ожидании новых радостей. Ира Шакурова в детской с грудой игрушечных зверушек.*
*Фрау Маргит фон Люкен (справа) не так-то просто отличить от девчонок. Три "подружки" забрались в дебри парка "Каменный век".*

Ліст з рэдакцыі

## Чаму нашыя сустрэчы будуць у бліжэйшы час не штодзённымі

Шаноўныя чытачы!

Калі б гэта было ў нашых сілах, то рэдакцыя "Народнай волі" радавала б Вас сем разоў у тыдзень — выдавала б газету кожны дзень. На жаль, такой магчымасці няма. З вялікімі цяжкасцямі нам даваўся сёлета кожны нумар. Меркавалі, што вернемся з Літвы, станем друкавацца ў Мінску — і выправім фінансавае становішча за кошт таго, што не трэба будзе несці значныя транспартныя расходы, плаціць падатак на дабаўленую вартасць з-за перасячэння мяжы. Але... Пра якую эканоміку можна весці гаворку, калі "Белпошта", не параіўшыся, павысіла тарыфы на свае паслугі адразу ў два разы. 29 тысяч рублёў — кошт месячнай падпіскі. З гэтай сумы рэдакцыя атрымае меней 9 тысяч "зайчыкаў". А рэдакцыі трэба і паперу купіць, і зарплату супрацоўнікам выплаціць, і за камунальныя паслугі разлічыцца, і, вядома ж, з падаткамі не затрымацца. А колькі іншых расходаў! Вось і думай, як тут выжыць.

І ўсё ж, паважаныя сябры, вытрымаем. Разам! Шкада толькі, што ў сувязі з надыходзячымі святамі і рознымі іншымі абставінамі ў бліжэйшыя два тыдні мы будзем сустракацца з Вамі не пяць разоў у тыдзень, а радзей. Наступны нумар Вы атрымаеце ў суботу, 27 снежня, а затым напярэдадні Новага года.

Будзем спадзявацца, што гэта не адаб'ецца адмоўна на нашым сяброўстве.

Вы — з "Народнай воляй"!

"Народная воля" — з Вамі!

**Рэдакцыя газеты "Народная воля".**

